РАЁННАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

№ 62 (7875) Заснавана ў красавіку 1931 года СУБОТА, 12 жніўня 2000 г. Цана 25 руб.

# Пачалася расфасоўка цэменту

*Рэпартаж з месца падзеі*

У апошнія гады на Беларускім цэментным заводзе адбыліся падзеі, якія мелі вызначальнае значэнне ў яго біяграфіі. Перш за ўсё, гэта прыезд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі. Кіраўнік краіны вырашыў далейшы лёс прадпрыемства, будаўніцтва якога, здавалася, безнадзейна спынілася з-за адсутнасці фінансавання. Работы на аб'екце аднавіліся, і вось у верасні 1996 года завод быў уведзены ў эксплуатацыю.

Радасць усіх была зразумелай: асвойваліся магутнасці, пачаты выпуск высокамарачнага цэменту. Але, як потым стала зразумела, для поўнага шчасця не хапала адной "дробязі" –фасоўкі прадукцыі. Паступова праблема выпуску цэменту адышла на другое месца, а рэалізацыя яго заняла першае...

З намеснікам дырэктара "Вытворчага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства Беларускі цэментны завод" па эканамічных пытаннях Віктарам Карашковым мы ідзем па тэрыторыі,аглядаем гіганцкія карпусы і ён коратка выкладвае набалелае.

— Вымушаны прытармажваць нават вытворчасць,— кажа субяседнік, — бо затаварваецца склад, няма збыту прадукцыі. Завод пачаў будавацца ў бытнасць Саюза і задумваўся як пастаўшчык будаўнічага матэрыялу для яго вялікай панарамы будоўляў. Адбыўся нечаканы паварот гісторыі – краіны не стала і горшых вынікаў, здаецца, нельга ўявіць. Зараз у рэспубліцы попыт на цэмент не такі і вялікі. Тым больш, што дзейнічаюць, акрамя Беларускага, яшчэ два заводы. Трэба шукаць спажыўцоў.

Наша падарожжа хутка закончылася, бо пачыналіся ўрачыстасці, у якіх нельга было не ўдзельнічаць. Дарэчы, там і пачулі мы адказы на многія надзённыя пытанні, што хвалявалі цэментнікаў...

Да пабудаванага і аснашчанага неабходным тэхналагічным абсталяваннем новага цэха падышла група адказных кіруючых работнікаў рэспублікі, вобласці, раёна, завода. Тут ужо сабраліся рабочыя, спецыялісты, кіраўнікі служб і падраздзяленняў прадпрыемства. Высокіх гасцей прадставілі калектыву.

Наступіў хвалюючы момант – перапразаецца чырвоная стужка ля ўваходу ў цэх. У цырымоніі ўдзельнічалі міністр архітэктуры і будаўніцтва краіны Генадзь Курачкін, першы намеснік старшыні аблвыканкама Дзмітрый Сівіцкі, старшыня райвыканкама Міхаіл Барысаў, старшыня раённага Савета дэпутатаў Мікалай Трубчык, дырэктар завода Уладзімір Кісялёў і іншыя. Кіраўнік прадпрыемства ўручыў сімвалічны ключ начальніку цэха Віктару Казлову.

Даецца каманда ўключыць лінію. І вось яна ажыла, запрацавала. У адзін з пададзеных сюды чыгуначных вагонаў з канвеера пачалі паступаць мяшкі цэменту. Між іншым, пагрузка можа весціся і ў аўтамашыны. Для гэтага таксама ўсё прадугледжана.

Дзеля даведкі: прадукцыйнасць упаковачнай лініі 1200 мяшкоў, або 60 тон цэменту ў гадзіну. Агрэгаты для яе паставіла нямецкая фірма "Мюлерс". Абсталяванне выраблена на прадпрыемствах г. Магілёва. На аб'екце выдатна папрацавалі мантажнікі, наладчыкі, у тым ліку і самога завода. Мантаж абсталявання і пуска-наладачныя работы праведзены спецыялістамі пад кіраўніцтвам цяперашняга начальніка цэха. Новую лінію будзе абслугоўваць калектыў у складзе 15 чалавек.

Пасля на заводзе прайшоў мітынг, прысвечаны афіцыйнаму адкрыццю ўпаковачнай лініі. Напачатку быў выкананы Дзяржаўны гімн.

Да прысутных звярнуўся міністр архітэктуры і будаўніцтва Г. Ф. Курачкін. Ён сказаў, у прыватнасці, што, на першы погляд, цэх – звычайнае збудаванне. Аднак яго значэнне прынцыповае. Гэта першая ўпаковачная лінія ў Беларусі. Плануецца стварыць другую ў Ваўкавыску.

Міністэрства выдзеліла Беларускаму цэмзаводу з інавацыйнага фонду 182 мільёны рублёў. Значныя сродкі сюды накіраваў Магілёўскі аблвыканкам. Усяго зрасходавана звыш 300 мільёнаў. Міністр выказаў надзею, што калектыў прадпрыемства будзе дастойна эксплуатаваць і берагчы дарагі цэх упакоўкі цэменту.

Экспартныя магчымасці завода цяпер павялічацца.

На мітынгу выступіў першы намеснік старшыні аблвыканкама Д. А. Сівіцкі.

— Сёння на Касцюковіцкай зямлі свята, — зазначыў ён. — Дагэтуль край лічыўся аграрным. З уводам у строй цэментнага завода структура народнай гаспадаркі раёна змянілася. Аб'ём прамысловай вытворчасці павялічыўся. Колькасць занятых у галіне вырасла на 1200 чалавек – менавіта зараз столькі працуючых на БЦЗ.

Пуск упаковачнай лініі – гэта прарыў на рынкі Расіі, Захаду. Увогуле спажыванне цэменту павінна ўзрасці. Сёння не кожны пакупнік возьме вагон будматэрыялу, а вось невялікую партыю, нарэшце, мяшок – асіліць. Гэта вельмі зручна. Трэцяя частка выраблена цэменту цяпер будзе фасавацца.

Д. А. Сівіцкі аддаў належнае Міністэрству архітэктуры і будаўніцтва, асабіста міністру за фінансаванне, а таксама калектыву завода за ўзвядзенне новага цэха. У бліжэйшыя гады, сказаў ён, намячаецца набыць і ўкараніць турбагенератар, які дасць прадпрыемству танную электраэнергію. Будзе створана кацельная гаспадарка з такім разлікам, каб эканомна расходваліся рэсурсы.

— На буйнейшым прадпрыемстве будаўнічай індустрыі Беларусі сёння адкрыты новы цэх, — адзначыў у сваім выступленні старшыня райвыканкама М. Р. Барысаў. – За час існавання завода тут адбыліся добрыя змены. Зараз ён выпускае 80 працэнтаў прамысловай прадукцыі раёна. Вырашаюцца праблемы занятасці людзей, сацыяльныя пытанні. Чарговы шматкватэрны дом у мікрараёне, які запланавана пабудаваць, — гэта аб'ём работы трэсту № 10, жыллё для цэментнікаў.

Наспела неабходнасць як след добраўпарадкаваць мікрараён "Маладзёжны", стварыць умовы для адпачынку людзей. Ад імя райвыканкама, многіх жыхароў М. Р. Барысаў прасіў аблвыканкам дапамагчы пабудаваць зону адпачынку ў горадзе Касцюковічы.

На прадпрыемстве склаўся касцяк інжынерна-тэхнічных работнікаў. Калектыў завода не намераны спыняцца на дасягнутым. М. Р. Барысаў павіншаваў цэментнікаў ад імя раённага выканаўчага камітэта з дасягнутай перамогай, пажадаў новых поспехаў, шчасця і дабрабыту. Ён уручыў Ганаровыя граматы ўсім, хто асабліва вызначыўся пры ўзвядзенні аб'екта.

На рускай мове вітаў прысутных прадстаўнік нямецкай фірмы Увэ Карзунке. Па яго словах, касцюковіцкая ўстаноўка – пятнаццатая па ліку ў СНД, якія фірмай пастаўлены і ўведзены ў эксплуатацыю. Былі тут пэўныя цяжкасці, але яны пераадолены, і прадпрымальнік рады, што ўпаковачны цэх працуе. Будзе прыбытак – вытворчасць атрымае далейшае развіццё.

З некаторых вынікаў работы пачаў сваё выступленне дырэктар завода У. А. Кісялёў. Так, за ўвесь час работы прадпрыемства выпусціла 1,4 мільёны тон цэменту. Цяпер будзе расфасоўвацца ў год па 225 тысяч тон яго. Мяшкі важаць 25, 40, 50 кілаграмаў. Акупаемасць лініі – мінімум за тры гады. Сёлета ўпершыню атрыманы прыбытак. За першае паўгоддзе ён склаў 150,3 мільёна рублёў. Узровень рэнтабельнасці – 5,3 працэнта. Дасягнуты рост вытворчасці прадукцыі ў параўнанні з мінулагоднім перыядам.

Кіраўнік прадпрыемства шчыра падзякаваў ураду краіны, мясцовым органам улады, свайму калектыву за падтрымку і дапамогу. Ён запэўніў, што цэментнікі будуць з гонарам несці працоўную эстафету далей. Дырэкцыя ўзнагародзіла Ганаровымі граматамі вядучых спецыялістаў, рабочых завода.

У сувязі з пускам лініі, святам будаўнікоў міністр адзначыў прэміяй дырэктара завода, Ганаровымі граматамі – шэраг работнікаў прадпрыемства.

У. А. Кісялёў уручыў гасцям сувеніры.

**Мікалай ДЗЯТЛАЎ.**





**На здымках: адкрываецца ўпаковачная лінія цэментнага завода; урачысты мітынг з нагоды гэтай важнай падзеі.**

**Фота Сяргея ГРЫНЕВІЧА.**

## Звесткі

### аб уборцы збожжавых у гаспадарках раёна па стану на 10 жніўня г.г.

**Першая калонка – назвы калгасаў, другая – убрана (у працэнтах да плана), трэцяя – ураджайнасць (цнт.)**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| "Прагрэс" | 62,3 | 17,3 | "Новае жыццё" | 36,7 | 21,9 |
| "Дуброва" | 57,3 | 27,4 | імя К. Маркса | 36,0 | 17,6 |
| "Радзіма" | 55,9 | 21,7 | "Смолькі" | 32,5 | 17,2 |
| "Лен. шлях" | 54,9 | 17,3 | "Кранштат" | 31,8 | 18,5 |
| "Новы быт" | 53,7 | 17,0 | "Праўда" | 30,2 | 18,0 |
| "Пар. камуна" | 48,6 | 22,8 | "Бароньк" | 22,8 | 17,0 |
| "Расія" | 45,7 | 15,6 | імя Калініна | 15,8 | 17,1 |
| "Забычанне" | 42,5 | 16,4 | **ПА РАЁНУ:** | **42,5** | **19,4** |

## ПЕРШЫНСТВО – У ГРАКАВЫХ

Паспяхова завяршылі ўборку жыта на 615 гектарах хлебаробы калгаса "Парыжская камуна". Ураджайнасць яго склала 22,7 цэнтнера з кожнага гектара. Пастараліся тут камбайнеры гаспадаркі, сярод якіх лідзіруе экіпаж у складзе братоў Гракавых – Сяргея і Уладзіміра. На іх рахунку 386 намалочаных тон.

Справіўшыся з жытнёвым полем, "Дон-1500" Гракавых пераехаў на аўсянае. І тут браты імкнуцца не ўступаць ганаровае першынство.

**Ул. інф.**

## Лепшыя распаўсюджвальнікі "Голаса Касцюкоўшчыны"

У пачатку чэрвеня г.г. рэдакцыя раённай газеты "Голас Касцюкоўшчыны" аб'явіла конкурс сярод начальнікаў паштовых аддзяленняў сувязі, паштальёнаў па арганізацыі падпіскі на раённую газету "Голас Касцюкоўшчыны" на другое паўгоддзе 2000 года. Былі ўстаноўлены тры прэміі пераможцам.

Падведзены вынікі конкурсу. Сярод аддзяленняў сувязі найбольшай колькасцю падпісчыкаў на "раёнку" можа пахваліцца **Станіслава Кляусава** – начальнік 3-га гарадскога аддзялення сувязі. Тут "Голас Касцюкоўшчыны" выпісалі 343 чалавекі.

Найбольшая колькасць падпісаўшыхся на раённую газету на ўчастку Слабада, які абслугоўвае паштальён **Наталля Сударава** – 60 чалавек.

59 экземпляраў "Голаса Касцюкоўшчыны" выпісалі жыхары ўчастка, які абслугоўвае **Алена Рэвель.**

Пераможцы конкурсу прэміяваны рэдакцыяй райгазеты.

# ШКОЛА ГАТОВА ПРЫНЯЦЬ ВЫХАВАНЦАЎ

*Кожны год,*
*Як толькі ў долах*
*Зацвітае сіні верас,*
*З мацярынскай ласкай школа*
*Расчыняе насцеж дзверы...*

У дзесяты раз рыхтуецца "расчыніць насцеж дзверы" перад сваімі выхаванцамі СШ № 4. Адпачываюць пакуль што, лагодна гледзячы на наваколле, яе вялікія, зіхатлівыя вокны. Славіты цішынёй шырокія і светлыя калідоры. Адпачываюць прыгожыя класы. Усюды бачна праца руплівых рук, плён неспакойных сэрцаў. Утульнасць, чысціня, парадак... Каму і колькі разоў за гэта трэба сказаць дзякуй?

У першую чаргу самую вялікую падзяку мы адрасуем сваім шэфам. Даўняе, моцнае і шчырае сяброўства звязвае калектывы Беларускага цэментнага завода і сярэдняй школы № 4. Беларускія цэментнікі на чале са сваім дырэктарам Уладзімірам Аляксеевічам Кісялёвым – частыя госці ў школе. Мы ўжо не ўяўляем сабе школьныя святы без іх удзелу. Дапамагаюць яны нам і ў пытаннях рамонту школы. Гэта шэфы паклапаціліся набыць школе музычныя інструменты. І цяпер ва ўсю сілу маладых талентаў працуе студыя "Добры настрой". Ужо сёлета школе завод падарыў каляровы тэлевізар "Віцязь". Штогод на навагоднюю свята шэфы выдзяляюць грошы на салодкія падарункі для дзяцей.

Супрацоўніцтва школы і завода з кожным годам пашыраецца і развіваецца. Па накіраваннях завода, па кантрактах з ім у розных навучальных установах — вышэйшых і сярэдніх, вучацца дзесяткі выпускнікоў школы.

Нават харчаванне дзяцей у школе ажыццяўляе гандлёвае прадпрыемства "Цэментгандаль". Кіруе гэтай важнай справай чалавек вялікай душы, клапатлівага сэрца – Раіса Міхайлаўна Саўчанка. І харчаванне бесперабойнае і якаснае.

13 жніўня рэспубліка адзначыць Дзень будаўніка. Разам з усімі будуць святкаваць яго і нашы шэфы. Мы шчыра віншуем увесь калектыў БЦЗ са святам. Жадаем поспехаў у працы, дабрабыту, шчасця.

**Тамара ГЛУШАКОВА,**
**дырэктар СШ № 4 горада.**



## ПРОДАЮ

или СДАЮ недорого свадебное платье. Обращаться по адресу: ул. Зиньковича, 95, кв. 36. Таня.

Х Х Х

приватизированную 2-х комнатную квартиру на м-не "Молодежный" или меняю на 1-комнатную в г. Могилеве. Обращаться по тел. в г. Могилеве: 42-06-17, в любое время.

Х Х Х

4-комнатную приватизированную квартиру в Ново-Самотевичах (Липовка) или меняю на 2-х комнатную в г. Костюковичи. Есть хозпостройки, земельный участок. Тел.: 34-1-27.

Х Х Х

кобылу, возраст 1 год. Тел.: 31-4-18. После 18.00.

---

В связи с прекращением предпринимательской деятельности предпринимателя **ГОРБИКОВОЙ Надежды Николаевны** претензии кредиторов принимаются в течении 2-х месяцев.

---

Раённы выканаўчы камітэт глыбока смуткуе з выпадку дачаснай смерці

**ШУНЬКІНА**
**Фёдара Максімавіча**

**і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

---

Раённы Савет дэпутатаў глыбока смуткуе з выпадку дачаснай смерці

**ШУНЬКІНА**
**Фёдара Максімавіча**

**і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім памёршага.**

---

Калектыў рэдакцыі райгазеты "Голас Касцюкоўшчыны" глыбока смуткуе з прычыны дачаснай смерці няштатнага аўтара

**ШУНЬКІНА**
**Фёдара Максімавіча**

**і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

---

Праўленне, прафсаюзны камітэт, калгасніки калгаса "Радзіма" глыбока смуткуюць з прычыны смерці былога старшыні калгаса

**ШУНЬКІНА**
**Фёдара Максімавіча**

**і выказваюць глыбокае спачуванне родным і блізкім памёршага.**

---

**Калектыў вытворчага ўчастка Клімавіцкага лікёра-гарэлачнага завода глыбока смуткуе з прычыны смерці**

**ШУНЬКІНА**
**Фёдара Максімавіча**

**і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім памёршага.**

---

**Калектыў будаўніча-мантажнага трэста № 10 "Цэментабуд" выказвае глыбокае спачуванне ШУНЬКІНАЙ Зінаідзе Кірылаўне з выпадку смерці МУЖА.**

---

**Адміністрацыя, прафсаюзны камітэт аддзялення Белаграпрамбанка выказваюць глыбокае спачуванне намесніку галоўнага бухгалтара ШАНЬКОВАЙ Людміле Дзмітрыеўне з выпадку напаткаўшага вялікага гора – смерці МАЦІ.**

---

**Калектыў УОРТП "Каапгандаль" райпа выказвае глыбокае спачуванне ТРУШЧАНКА Валянціне Міхайлаўне з выпадку смерці БАЦЬКІ.**

---

## Газета выступіла. Што зроблена?

## "Няма канца ў вяроўцы цяганіны"

Пад такой назвай у раённай газеце за 15 ліпеня г.г. быў апублікаваны матэрыял, у якім ішла гаворка аб тым, што дробязныя пытанні па навядзенню парадку ў двары дома № 2 па вуліцы Савецкай, у аб'яднанні жыллёва-камунальнай гаспадаркі вырашаюць з мінулага года. У чарговы раз артыкул быў накіраваны дырэктару РВА ЖКГ П. А. Шаўцову на рэагаванне.

Ён нарэшце паведаміў, што скрыня для смецця ўстаноўлена каля гасцініцы, каналізацыйная яма і вонкавы туалет вычышчаны.

Дзякуй Богу, праз восем месяцаў зрабілі. Хаця на выкананне гэтай работы ў агульнай складанасці не патрачана і аднаго дня.

---

Денис
**ПАРХОМЕНКО**

## Возвращение в детство

В жизни были такие минуты,
Что хотелось мне в детство
вернуться,
По местам тем пройти, где когда-то
Мы с друзьями играли в солдатов.

Мне хотелось пройти по дорогам,
На которых мальцом босоногим,
Бегал, прыгал, смеялся и плакал...
Дождь слезой на рубашку мне
капал.

Пробежаться вдоль речки, как
раньше,
Со своими друзьями – кто дальше.
Побродить бы под первым дождем,
(Мы его с нетерпением ждем)...

Не вернутся назад эти годы,
С яркой, солнечной, теплой
погодой,
Никогда мне уж их не забыть,
Буду в сердце их вечно хранить.

Ну и пусть говорят, что напрасно
Вспоминаю о самом прекрасном...
Много лет было в жизни хороших,
Всё же детские годы дороже.



Каласкі.

Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.

---

## Уважаемые подписчики!

Проводится подписка на четвертый квартал 2000 года на республиканские газеты и журналы. Она будет проходить до 15 сентября. На газеты, имеющие корсчета в Беларуси, подписка продлится до 8 сентября, на областные газеты – до 20 сентября. На районную газету можно подписаться до 25 сентября.

Подписку можно оформить во всех отделениях связи города и села. Свои услуги здесь могут предложить почтальоны.

**Справки по тел.: 21-8-83.**

**Районный узел почтовой связи.**

---

## Поздравляем!

*Сердечно поздравляем с Днем строителя и вводом в действие упаковочной линии коллектив Белорусского цементного завода!*

*Мы от души желаем вам*
*Здоровья, счастья и удачи,*
*Чтоб сердце оставалось зрячим*
*Наперекор любым громам.*
*Чтоб никакой печали тень*
*Судьбы и жизни не касалась*
*И все, что хочется, сбывалось,*
*И был прекрасен каждый день.*

***Администрация, педагогический и ученический коллектив СШ № 4.***

Х Х Х

*Сердечно поздравляем с профессиональным праздником – Днем строителя рабочих, служащих, инженерно-технических работников, ветеранов труда ПМК-260!*

*Пусть в вашем доме пропишутся*
*радость и счастье,*
*Пусть болезни уйдут, не оставив*
*следа,*
*А солнечный свет все развеет*
*ненастья*
*И удача сопутствует в жизни*
*всегда.*

***Администрация, профсоюзный комитет ПМК-260.***

Х Х Х

*Горячо и сердечно поздравляем с Днем строителя коллектив ПМК-260 во главе с руководителем **ЕРМАШКЕВИЧЕМ Петром Васильевичем!***

*Желаем счастья и добра,*
*Здоровья, радости, тепла,*
*Удач, успехов, всяких благ,*
*Чтоб жизнь всегда была в цветах.*
*Печали, горести не знать,*
*Из уст улыбку излучать,*
*Всё видеть, знать и всё уметь,*
*Душой и сердцем не стареть.*

***Коллектив СШ № 1.***

Х Х Х

*Горячо и сердечно поздравляем с 18-летием со дня рождения дорогую, любимую доченьку*

***ОСТАПЕНКО***
***Олю***

*Обычно в день такой большой,*
*Который назван "День Рожденья",*
*Всегда с открытою душой*
*Тебе приносим поздравленье.*
*Пускай души не меркнет огонек.*
*Желаем дочка, мы, тебе, большого счастья,*
*И на путях не пройденных дорог*
*Пусть Бог хранит тебя от*
*всякого напастья,*
*Чтоб боль и горе в жизни не*
*встречались*
*И чтобы радость не кончалась.*
*Пусть будут вёсны среди зимы и*
*лета,*
*Пусть будет очень много света,*
*И всё задуманное пусть*
*свершится*
*Ведь ради этого и стоило*
*родиться!*

***С любовью мама, папа.***

Х Х Х

*От всей души поздравляем с 18-летием со дня рождения дорогую, любимую сестричку, свояченицу, тетю*

***АСТАПЕНКО***
***Олю***

*Под звон хрустального бокала,*
*Под шум шампанского вина,*
*Тебя, сестричка, поздравляем*
*Желаем счастья, и сполна!*
*В день прекрасный, как небо синий*
*Будь прекрасней солнца ты.*
*Пусть Земли нашей всей "мужчины"*
*Принесут для тебя цветы,*
*Пусть покорно, гордо и смело,*
*Посвятив тебе каждый вздох,*
*Твой любимый, встав на колени,*
*Звёзд охапку положит у ног.*
*Пусть волшебница – жизнь на хрустальный поднос*
*Позолоченный кубок поставит*
*Полный кубок здоровья нальет*
*И для счастья местечко оставит.*

***С любовью и уважением сестра, зять и племянница Алинка.***

Х Х Х

*Горячо и сердечно поздравляем с 30-летием со дня рождения*

***ВЛАСЕНКО***
***Николая Адамовича***

*Бывает много дней рожденья,*
*Но наступает юбилей,*
*Пусть он не будет огорченьем,*
*Живи как можно веселей.*
*Ведь старят нас совсем не годы*
*Болезни старят и беда.*
*Так пусть минуют все невзгоды*
*Тебя сегодня и всегда.*
*Желаем радости, тепла,*
*Веселья в жизни и добра,*
*Здоровья, счастья, вдохновенья*
*В день юбилея, в день рожденья.*

***Тесть, теща, Аня.***

Х Х Х

*От всего сердца поздравляем с 30-летием со дня рождения дорогого, любимого мужа, отца*

***ВЛАСЕНКО***
***Николая Адамовича***

*Улетают года ,словно пух*
*тополей,*
*Не грусти провожая их взглядом.*
*Ведь года – не беда и совсем*
*ерунда,*
*Коль семья и друзья с тобой рядом.*
*Пусть горе, разные напасти*
*Забудут вход в твой светлый дом.*
*И только истинное счастье*
*Большим огнем сияет в нем.*
*Пусть жизнь улыбается вечно*
*тебе,*
*Пусть мимо проходят невзгоды*
*Здоровья и счастья желаем тебе*
*На долгие-долгие годы.*

***Жена, сын.***

Х Х Х

*Горячо и сердечно поздравляем с 65-летием со дня рождения дорогого папочку, дедушку*

***ЧИЖ***
***Григория Алексеевича***

*Спасибо, родной, что ты есть*
*у нас,*
*Что видим и слышим тебя*
*каждый час.*
*За добрую душу и доброе слово,*
*За то, что не видели в жизни*
*плохого.*
*Желаем тебе, наш родной человек,*
*Чтоб был бесконечным твой*
*жизненный век.*

***Дети, внуки.***

Х Х Х

*От всего сердца поздравляем с 40-летием со дня рождения*

***ЧЕРКАСОВА***
***Александра Владимировича***

*Пусть будет жизнь твоя*
*прекрасной,*
*В семье погода – только ясной,*
*Пусть льются нежных слов*
*потоки,*
*Пусть радость в доме бьёт*
*ключом,*
*Не режут слух слова упреков*
*И беды будут нипочем.*

***Брат Владимир и его семья.***

Х Х Х

*Сердечно поздравляем с днем рождения*

***КУЗНЕЦОВА***
***Анатолия Семеновича***

*Желаем счастья Вам большого,*
*Благополучия земного,*
*Здоровья крепкого вдвойне,*
*Желаем самого простого –*
*Прожить подольше на земле.*

***Коллектив работников ПМК-90.***

---

**Раённая прафсаюзная арганізацыя работнікаў дзяржустаноў глыбока смуткуе ў сувязі з дачаснай смерцю**

**ШУНЬКІНА**
**Фёдара Максімавіча**

**і выказвае спачуванне яго родным і блізкім.**

---

**Галоўны рэдактар Мікалай ДЗЯТЛАЎ**


**ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ**

*ЗАСНАВАЛЬНІК: КАСЦЮКОВІЦКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ*

*АДРАС РЭДАКЦЫІ:*
*213640, г. Касцюковічы, вул. Ленінская, 43*
*Індэкс газеты 64045*

*ТЭЛЕФОНЫ:*
*галоўны рэдактар -- 2-11-33; нам.галоўнага рэдактара, адказны сакратар -- 2-16-94; аддзелы: аграпрамысловы і інфармацыі -- 2-16-34; пісьмаў і масавай работы, бухгалтэрыя --2-23-55.*

***Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы А. ШПАКАВА.***
**Газета выходзіць у сераду і суботу.**

*Аб'ём газеты -1 друкаваны аркуш*
*Тыраж 1514 экземпляраў*
*Друк афсетны*
*Падпісана ў друк 11. 08. 2000 г. 18.00*
*Заказ № 62*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдакцыі.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

**Рэгістрацыйны нумар 760 ад 29 сакавіка 1997 года. Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М. Свярдлова, вул. Першамайская, 72.**